


Валянцін АКУДОВІЧ

# АФРЫКА — РАДЗІМА ТАЗІКАЎ, альбо Я ХАЧУ Ў БУМ-БАМ-ЛІТ



***Даведка***

*Літаратурная суполка Бум-Бам-Літ арганізавалася ўвесну 1995 года. Пакуль яшчэ канчаткова не сфарміраваная ні структурна, ні эстэтычна, ні ідэалагемна, ні персанальна.*

*Слупы Бум-Бам-Літа: Барысевіч Юрась, Башура Міхась, Бахарэвіч Альгерд, Васанская Жанна, Вішнёў Зміцер, Гарачка Усевалад, Мінскевіч Сяржук, Патаранскі Сяргей, Сін Ільля, Туровіч Алесь...*

*Фетышы Бум-Бам-Літа: складны Тазік і, у перспектыве, машына хуткай дапамогі.*

Ніколі не хацеў быць сябрам (членам) Саюза пісьменнікаў, "Тутэйшых", ПЭН-цэнтра, Таварыства Вольных Літаратараў... Не, калі быць зусім дакладным, то адзін раз хацеў, бо пачаў моцна кашляць і з гэтага думаць пра смерць. І не так мяне тая смерць палохала, як вечная нястача грошай. Дзе ж гэта мая жонка, — думаў, — якой да палучкі грошай ніколі не хапае, набярэцца іх, каб прыдбаць труну, замовіць аркестрык ды справіць хоць якія хаўтуры. Дарэчы, з хаўтурамі найгорай, бо чым-чым, а сябрамі і прыяцелямі лёс мяне ніколі не крыўдзіў. Як уявіў сабе, колькі іх адусюль панацягнецца і кожнаму трэба па праваслаўнай завядзёнцы тры чаркі наліць (але гэта можа вашым сябрам было б даволі тры чаркі, а маім, ды яшчэ з такой нагоды — смеху вартыя тыя тры чаркі)... Адным словам, як уявіў я сабе ўсё гэта, то зразумеў, што пасля хаўтураў маім сямейнікам таксама ўжо жыцця не будзе...І вось тады я ўспомніў, што сяброў (членаў) Саюза пісьменнікаў за дзяржаўны кошт хаваюць і моцна пашкадаваў, што я не сябар (член) гэтага "саюза". Трэба, — пачаў я ліхаманкава прыкідваць варыянты, — хуценька зладзіць якую-кольвек малюпасенькую кніжачку і прасіцца ў "саюз". Тым болей, што ў мяне там шмат знаёмцаў, можа паспрыяюць, каб прынялі і за дзяржаўны кошт пахавалі.

Магчыма, я і здзейсніў бы сваю задуму, але раптам кашляць перастаў...

Усё гэта я расказаў дзеля таго, каб шчыра засведчыць, што не хачу ні ў які літарацкі хаўрус...

А вось у Бум-Бам-Літ хачу... Бо ў бумбамлітаўцаў ёсць Тазік (ні ў кога болей Тазіка няма), і кожны, хто бумбамлітавец, мае ганаровае права грукаць у яго бляшанае дно...

Мне моцна карціць грукнуць у Тазік, але ў бумбамлітаўцы мяне не возьмуць, бо бумбамлітаўцам нельга стаць (як сябрам Саюза пісьменнікаў, ПЭН-цэнтра ці ТВЛ), бумбамлітаўцам трэба нарадзіцца. Тут я маю на ўвазе не столькі біялагічны факт народзін, хаця гэта, як вы разумееце, таксама істотна, колькі творчы.

Няма ніякіх шанцаў зрабіцца бумбамлітаўцам таму, хто сфармаваўся як літаратар у эпоху сацрэалізму. Але не нашмат болей шанцаў і ў таго, хто сфармаваўся як літаратар, змагаючыся з сацрэалізмам вонкі і ў самім сабе. Для бумбамлітаўца сацрэалізм не жытло і не вязня, а ўсяго адзін з эстэтычных дыскурсаў (нічым не лепшы, аднак і не горшы за астатнія), адкрытай ва ўсе бакі постмадэрновай прасторы.

Бумбамлітавец — натуральны, "адпрыродны" постмадэрніст. Ён не выбірае постмадэрнізм з таго, што той яму падабаецца ці яшчэ з нейкай апрычонай вераемнасці. Бумбамлітавец проста не можа не быць постмадэрністам, як негр не можа не быць неграм. І хаця іншы бумбамлітавец жагнаецца пры слове "постмадэрніст" не раўнуючы "рэаліст" Андрэй Федарэнка (натуральна, жагнаюцца яны зусім на розны жах) і на прамілы Бог даводзіць, што ані сном, ані духам, але гэта, бадай, толькі ад непамыснага ўяўлення пра постмадэрнізм як пра выключна эстэтычную падзею. Безумоўна, калі постмадэрнізм разумець зыходзячы адно з ягоных эстэтычных прыкметаў і прыёмаў (гульня, калаж, цытаванне, перформенс, іронія, містыфікацыя, эпатаж і г.д.), то можна пераконваць сябе ды іншых, што ты вышэй, далей, ніжэй, глыбей за постмадэрнізм, ды ўвогуле ніколі не бачыў гэтага пудзіла і нават не чуў, каб у вёсцы пра нешта такое гаварылі.

Але постмадэрнізм — гэта найменш эстэтыка. Постмадэрнізм — гэта найперш інтэлігібельнае быццё ў адсутнасці трывалых ды пераканаўчых логацэнтрычных ідэй. Вядома, можна запэўніць сябе, што ты маеш тычку ў сярэдзіне сусвету, — і трымацца за яе, не заўважаючы, што ў руках жменя парахні... Толькі ў бліжэйшае стагоддзе з крыгі постмадэрнізму ніхто не выскачыць на трывалы бераг.

Бумбамлітавец і постмадэрніст — спарышы. За гэта сведчыць і той факт, што амаль кожны бумбамлітавец мае (ці збіраецца прыдбаць) свой літаратурны маніфест.

У літаратуру — са сваім уласным "маніхвэстам". Гэта не дэвіз Бум-Бам-Літа, гэта "родавая" прыкмета постмадэрнізму, які не трывае талент без самападстаўнай творчасці, бо ў літаратурную эпоху, пазбаўленую хоць якіх канстытуяваных каардынатаў, талент, які не здольны стварыць "сваё" пісьмо як уласную лагему быцця, мала чаго варты. Адсюль, з факта наяўнасці "ўласнага", "свайго" пісьма ўзнікае патрэба маніфеста, гэта значыць хоць-якой маркіроўкі ў гушчары тых зблытаных семантычных дыскурсаў, праз які постмадэрновы літаратар прапануе прадрацца чытачу...

Зрэшты, пазначэнне бумбамлітаўца як постмадэрністага не шмат што тлумачыць у гэтым феномене. Болей мы знойдзем у словах Юрася Пацюпы, якія ён сказаў у прадбачанні Бум-Бам-Літа: "Але за імі ("Тутэйшымі" — **В.А.**) прыйдзе пакаленне, для якога беларуская мова не будзе "богам", як для майго пакалення. Гэтыя "новыя" аўтары будуць настолькі нечаканыя і смелыя, што ўсе "Тутэйшыя" супраць іх выглядацьмуць архаістамі. "Новыя" панясуць шырокаю плынню цікавыя творы ў дрэннай, скалькаванай моўнай упакоўцы. "Новыя" стануць натуральнымі для новага жыцця, таму іх цяжка будзе у нечым папракнуць". (Новая "Крыніца", № 6).

Тут усё трапна, хіба патрабуе ўдакладнення тэрмін "новыя", які апошнім часам актыўна спажываецца ў нелінейнай бінарнай апазіцыі "новыя — старыя". Паколькі чытаючая публіка пачынае прызвычайвацца: "новыя" — гэта тугэйшаўцы, нашаніўцы, тэвэзлаўцы, зноўцы (аўтары "ЗНО"), то было б памылкай пазначаць гэтым паняткам і бумбамлітаўцаў нягледзячы на тое, што толькі апошнія яго і заслугоўваюць. Бо пералічаныя вышэй яшчэ не "новыя", хаця, можа, ужо і не зусім "старыя"; яны, так бы мовіць, "новыя старыя". (З іншага боку карціць назваць "новымі старымі" найперш тых маладых ці ўжо і не надта маладых, што працуюць у састарэлай эстэтыцы, архаічных формах мыслення. Зрэшты, калі не інтэлектуальна, то эстэтычна адны "новыя старыя" прынцыпова не адрозніваюцца ад другіх "новых старых").

Калі пагадзіцца з ацэнкай "новых" як "новых старых", то тады, між іншым, робіцца зразумелым, чаму ні "Тутэйшыя", ні ТВЛ не ладзілі свае хаўрусы з эстэтычнай прыналежнасці, а фармаваліся на падставах супрацьстаяння быломy, сяброўскага сімбіёзу, амбітнасці, палітычнай заангажаванасці, меры патрыятычнай апантанасці і т.п. Дзе-небудзь год праз дзесяць — пятнаццаць незасацыялагізаваны літаратуразнаўца аніяк не даўмеецца, што адрознівала "новых" ад "старых". І гэта цалкам натуральна, бо эстэтычна "новыя" наследавалі "старых".

У вышэйзгаданай цытаванцы Юрася Пацюпы ёсць надзвычай істотны момант характарыстыкі ўжо *сапраўды* "новых". "Новыя" стануць *натуральнымі* (курсіў мой — **В.А.**) для новага жыцця..."

Гэтае азначэнне "натуральныя" можна разглядаць у самых розных аспектах (у аспекце постмадэрнізму яно ўжо трохі краналася). Тут мы звернем увагу толькі на адно з адрозненняў Бум-Бам-Літа ад яго літаратурных папярэднікаў. І "Тутэйшыя" і ТВЛ былі не-натуральныя той культурнай сітуацыі, у якой знаходзіліся (ці сітуацыя была не-натуральнай для іх) і пакладалі усе намаганні, каб перамяніць яе адпаведна свайго ўяўлення пра каштоўнасці. "Тутэйшыя" змагаліся з "сацрэалізмам", "афіцыйнымі" пісьменнікамі, антыбеларушчынай і дэкларатыўнай беларушчынай у спадзеве на стварэнне новай культурнай рэальнасці, тоеснай еўрапейскаму культуралагічнаму кантэксту (і шмат чаго дамагліся у гэтым сэнсе, калі "Нашу Ніву" разглядаць як спадкаемку "Тутэйшых"). ТВЛ разгортвалася прыкладна ў тым жа рэчышчы (і з тымі ж "ворагамі"), што і "Тутэйшыя", і хаця акрэслілася праз шэраг адметнасцяў і уласных здабыткаў, але і ягоныя вектары гэтаксама скіраваныя за відарыс таго, што ёсць (і як ёсць) у тое, што павінна (мусіць) быць.

Дык вось, у адрозненне і ад адных, і ад другіх (і ад усялякіх трэціх) Бум-Бам-Літ ні з кім не варагуе (у прынцыповым плане), нічога мяняць не збіраецца, нікога выперадзіўшага не даганяе. Так бы мовіць — нарэшце дагналі. І калі ў літаратурных вопытах бумбамлітаўцаў адбіваюцца тэндэнцыі неяк ужо выявіўшы сябе на Захадзе альбо Усходзе — то гэта зусім не азначае, што бумбамлітаўцы некаму ўпадабляюцца, кагосьці пераймаюць, даганяюць, наследуюць. Падабенства тэндэнцый сведчыць адно пра тое, што бумбамлітаўцы працуюць у агульным эстэтычным полі, натуральным для стану сучаснай еўрапейскай культуры, якая ліхаманкава мітусіцца з прычыны страты сэнсу быцця і апантана грукае ў "тазікі" ў прадчуванні эры вялікага бязмоўя...

Я не ведаю, хто з бумбамлітаўцаў прыдумаў назву "Бум-Бам-Літ", я не ведаю, у каго з іх з'явілася ідэя ўзброіць суполку Тазікам, але калі карыстацца паняткам эпохі рамантызму (даўно састарэлым і напрыканцы XX стагоддзя ўжо нават трохі смешнаватым), гэта — "геніяльна".

І першае, і другое "геніяльна" таму, што не слова і сэнс (ужо выпрацаваўшыя патэнцыял сваіх магчымасцяў), а гук, рытм і відарыс арганізуюць змест тэхнагеннай цывілізацыі і жыццё чалавека пры ёй (адсюль татальнае панаванне музычнай і відэакультур).

Бум-Бам-Літ!

Бум — гук, Бам — рэха, разам — Літ(аратура).

Гук, аформлены ў слове ды нагружаны сэнсам і значэннем рэха — гэта і ёсць тое, што раней называлася літаратурай. Аднак у пару змарнеласці слова і страты ўсялякіх жыццядайных сэнсаў застаецца актуальным толькі рытмічна арганізаваны гук, што спрабуе прарвацца скрозь шумы фізічнага і тэхналагічнага светаў, каб засведчыць рэхам — чалавек чалавеку яшчэ неяк ёсць. Але каб прабіцца арганізаванаму гуку скрозь усё нарастаючыя шумы і быць пачутым чалавекам (і тым суцешыць яго, што ён не адзіны, не апошні чалавек) аднаго чалавечага голасу ўжо мала. Патрэбна яшчэ нешта. І тут з'яўляецца Тазік...

Дарэчы, ці чулі вы, што бумбамлітаўцы збіраюцца ў Афрыку? Усур'ёз збіраюцца. Праўда, невядома, як надоўга. (Між іншым, заўважце, у Афрыку, а не па месцах баявой славы гетмана Астрожскага і не па месцах працоўнай славы будаўнікоў Мірскага замка, як гэта зазвычай рабілі і па сёння робяць літаратурныя папярэднікі бумбамлітаўцаў).

Я не пытаўся ў слупоў Бум-Бам-Літа, чаму менавіта ў Афрыку, а не, скажам, Антарктыду? І не буду пытацца, бо не перакананы, што яны самі гэта ведаюць. А я вось ведаю. Пацягнула бумбамлітаўцаў менавіта ў Афрыку таму, што Афрыка — радзіма тазікаў. І хаця тамтэйшыя тазікі называюцца тамтамамі, этымалагічная пераемнасць відавочная. І там на пачатку "та", і тут на пачатку "та". Як відавочная пераемнасць функцыянальная, эстэтычная і сакральная.

Але Афрыка не толькі радзіма тазікаў, яна — прарадзіма Бум-Бам-Літа. Гэтую выснову я раблю вось з чаго. Культуралагічную прастору Бум-Бам-Літа арганізуе бумбамістае рэха ад грукання ў бляшанае дно Тазіка. Але і культуралагічная прастора Афрыкі была арганізаваная рытмагукамі тамтамаў, якія адвеку нагадвалі кракадзілам, джунглям і акіянам, што акрамя іх у сусвеце ёсць яшчэ нехта. А чалавеку (гэта значыць негру, прапрапродку бумбамлітаўца) гэтыя гукі ў непралазным гушчары джунгляў былі тым самым, што еўрапейскай паганцы Арыядне знакамітая нітка ў лабірынтах цара Мідаса, а еўрапейскай хрысціянцы Еўфрасінні дарога да Іерусалімскага храма.

Таму на заканчэнне сваіх разваг я хачу звярнуцца да беларускіх спонсараў. Дапамажыце, чым можаце, каб бумбамлітаўцы змаглі наведаць сваю (і Тазіка) гістарычную прарадзіму. Самі разумееце, як сэрца па радзімай старонцы баліць.

Разам з тым я звяртаюся і да афрыканскіх спонсараў. Таксама дапамажыце. Вам жа на карысць будзе — гэта я не так сабе кажу. Рэч у тым, што бумбамлітаўскі Тазік складваецца (тут ніякага падману, на свае вочы бачыў і рукамі мацаў — слова гонару). Натуральна, гэты цуд не ёсць чыстым здабыткам канструктыўнай творчасці саміх бумбамлітаўцаў, а хутчэй адлюстроўвае плён усёй еўрапейскай тэхнакратычнай цывілізацыі, але тым не менш, калі вы на свае вочы пабачыце і рукамі памацаеце складны Тазік, то потым зможаце вырабляць складныя тамтамы. А складныя тамтамы, не ў прыклад звычайным, зручна пераносіць хоць куды: нават на гару Кіліманджара можна будзе некалькі зацягнуць. І калі там грымнуць, дык і на зорах будзе добра чуваць...

**P.S.** Напісаў, перачытаў і спахапіўся недзе дадаць:

— тое, што я разглядаю кволы парастак Бум-Бам-Літа як цалкам сфармаваную падзею — гэта толькі маё жаданне, каб Бум-Бам-Літ адбыўся ва ўсёй сваёй патэнцыяльнай значнасці пад якім заўгодна штандарам і з якім заўгодна персанальным складам. Таму мае развагі датычаць не так рэальных, канкрэтных бумбамлітаўцаў, як нейкага ўмоўнага бумбамлітаўца, які, зусім верагодна, і не пажадае грукаць у Тазік, а будзе грукаць, скажам, у патэльню ці патэльняй.

І апошняе. Мае меркаванні пра Бум-Бам-Літ і бумбамлітаўцаў могуць не супадаць з меркаваннямі слупоў гэтага хаўрусу. Зрэшты, як і з меркаваннямі каго заўгодна іншага.

кантролю над грамадзянамі з боку ўлады. З'яўленне пісьменнасці паўсюль суправаджаў адзіны феномен — заснаванне гарадоў ды імперый, а таксама іерархічны падзел насельніцтва на касты і класы. Пісьмо было і застаецца інструментам збірання тысяч работнікаў, каб прымусіць іх да знясільваючай працы — пабудовы пірамідаў, камунізму ці нацыянальнай дзяржавы (або імперыі, калі хочаце). "Бескарыслівае ўжыванне пісьменнасці дзеля інтэлектуальнага і эстэтычнага задавальнення ёсць другасным вынікам і найчасцей ператвараецца ў сродак узмацніць, апраўдаць ці прыхаваць той жа прыгнёт".

Асабліва ж рэакцыйную ролю пісьменнасць пачала адыгрываць у г.зв. эпоху постмадэрнізму: яе пачалі разглядаць як нешта больш вартаснае і сапраўднае, чым жывыя стасункі паміж людзьмі, іхнія размовы і ўчынкі. Ва ўсім свеце лепшыя сілы мастацтва і літаратуры загразлі ў бясплённых (прынцыпова бясплённых) маніпуляцыях са знакамі, адарванымі ад сваіх рэферэнтаў — думак, рэчаў і падзеяў, або не заснаванымі ўвогуле ні на якой рэчаіснасці — ні матэрыяльнай, ні ўяўнай. Захопленыя гульнёй з бясконцымі паслядоўнасцямі пустых знакаў, літаратары самі не ведаюць, што яны пішуць, і для каго.

Зрэшты, нават пры жаданні дакрычацца да свядомасці паспалітага народа праз пісьмо і друк наўрад ці магчыма. Адзін з герояў Гогаля, пчаляр Руды Панько, казаў: "Друкаванай паперы нарабілі ўжо столькі, што і не ведаеш, што б такое ў яе загарнуць..."

Народ цягнецца да таго, хто нешта гаворыць яму, а не піша — да нашага Прэзідэнта, напрыклад. Ды і дэмакратычная апазіцыя выклікала найвялікшую цікаўнасць у суайчыннікаў, калі яна не мела магчымасці пісаць артыкулы для газет і законаў — у "залатую пару" шматтысячных мітынгаў і касамоўных агітатараў.

Ці не тлумачыцца росквіт філасофіі ў Старажытнай Грэцыі тым, што гэта была філасофія пераважна размоўная, якая артыкулявалася мімікай і органамі цела, а таму і была цікавая простым людзям? Хрыстос і Буда таксама аддавалі перавагу непасрэднай гаворцы з людзьмі, і толькі таму іхнія думкі не пазабыліся па сёння. Найбольш плённая ў духоўным плане эпоха чалавечай гісторыі прыпала на тыя часы, калі большасць людзей былі непісьменнымі... У тым ліку і большасць паэтаў.

Пісьмо і чытанне дазваляюць нам наблізіць вельмі далёкія рэчы, але наўзамен у гэткай жа ступені адсланяюць ад нас нашых блізкіх і нашу сучаснасць. Газету ці закон кожны чытае паасобку, на мітынгу ж, як калісьці на вечы, мы былі разам. Пісьменнасць спарадзіла палітыку дзеля палітыкі і літаратуру дзеля літаратуры, а ўрэшце — жыццё дзеля жыцця і спажывання, жыццё без якой-кольвек веры ў цуд і рэальную магію мастацтва.

На заканчэнне працытую адзін урывак згаданага вышэй артыкула Арто: " Шэкспір і ягоныя пераймальнікі доўгі час унушалі нам ідэю мастацтва дзеля мастацтва, калі жыццё стаіць па адзін бок, а мастацтва — па іншы. І можна было цалкам задавальняцца гэтай марнай і бясплённай ідэяй, пакуль жыццё, што працякала за яе межамі, яшчэ трымалася. Але цяпер занадта многія прыкметы сведчаць пра тое, што ўсё, дзеля чаго мы жылі, болей не трымаецца, што ўсе мы абрынутыя ў вар'яцтва, адчай і хваробу. І я заклікаю нас да процідзеяння".

Зміцер ВІШНЁЎ



## МАНІФЕСТ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАЙ ПАРТЫІ.

## ТРАНСЛАГІЗМ. ШЫЗАРЭАЛІЗМ. ПАРАНОЙЯ. X

Мы падаруем букет чорных афрыканскіх кветак. Нашыя шыхты прапусцяць літаратурнага герцага на белым кані, потым яны сыйдуцца. Узнікне сітуацыя ўзнікнення. Будуць гучаць грымотныя цюканні ў алюмініевы талісман-тазік. Мы абвесцім падарожжа шызарэалізму ў транслагізм. Пачнуцца бойкі. Некаторыя баявыя таварышы па Літаратурна-Мастацкай Партыі будуць выкінуты на паверхню камуністычнага рэалізму. У некаторых атрымаецца застацца ў вясёлай адзіноце каля пальмы на выспе паранаідальнасці. Ар'ергард паглыбіцца ў лабірынты нязведанага. Над намі будуць лунаць сцягі новага (новага і актуальнага сёння). Штандары: Транслагізм, Шызарэалізм, Паранойя, X.

Старэння літаратурнай актуальнасці ў нас няма, мы трымаем свой сакрэтны X. Напэўна, дзесьці ў тундры на сопцы стаіць медзяны балван, ён мае маленькую скрыню. Там адпачывае вялікі X.

## МАРШАВЫ "ТАМ-ТАМ" БУМ-БАМ-ЛІТА

*Там далягляд развальваецца на*
*чырвоныя кавалкі*
*Там грыміць акіян*
*Там ходзяць панцырападобныя дзяўчаты*
*Там стаіць белая Прыторыя*
*Там вершнікі з доўгімі і цьмянымі мячамі*
*Там рассцілаецца аксамітны пыл*
*Там лётаюць рэдкія саламяныя птахі*
*Там бадзяецца худы мурын*
*Там ляжыць пашараваная жоўтая манета*
*Там бегае дух гулянкі і распусты*
*Там гучаць тамтамы*
*Там скачуць чыгунавыя ядры*
*Там знаходзіцца маршавы ультыматум*
*Там-там — спяваем мы і валачэмся туды*

Алесь ТУРОВІЧ



## ПОСТМАНІФЕСТ ТРАНСЛАГІЗМУ

### (адзін з опусаў..., артыкулаў..., элементаў зацемак)

Да "новай літаратуры" можна ўмоўна аднесці тэксты аўтараў, якія ствараюць, імкнуцца ствараць або інсінуіруюць нестандартныя канцэпцыі і мадэлі працы са словам. Прэтэнзія на стварэнне ўласнай эстэтычнай парадыгмы, ці толькі пэўнага яе элемента, ускладае на асобу вялізную адказнасць, разам з тым дывідэнты маніфеставання і перформенізацыі падвержаны звышхуткай інфляцыі па розных траекторыях часу. Эксперыменты ў галіне эстэтыкі больш небяспечныя, чым эксперыменты ў галіне маралі. Этычная перыферыйнасць, падмешаная ў свабодную гульню з дыскурсамі, аспектамі тэксту для псіхікі больш разбуральная, чым, напрыклад, фальш у рэлігійнай канцэпцыі, таму што мае выйсце на не абароненыя вербальнасцю зоны душы чалавека.

Разам з тым у час кардынальных зменаў у адносінах паміж чалавекам і светам нельга заставацца ў прасторы законаў, якія адлюстроўваюць мінулыя адносіны паміж канкрэтнымі і абстрактнымі канцэптамі. Цыклічнасць у змене эпох і эстэтычнага мыслення не перашкаджае рэфлексіі на нестандартныя маргінальныя з'явы як на "новае". Гэта абумоўлена тым, што да шкалы змены палярнасцяў "класічны-рамантычны" тып мыслення і творчасці імкліва дабудоўваюцца новыя шкалы, што з'яўляецца вынікам працэсаў, якія не маюць аналагаў у гісторыі. Да такіх працэсаў можна аднесці навукова-тэхнічны прагрэс, інфармацыйны бум, і як следства — "канец эпохі Гутэнберга", калі папяровыя носьбіты інфармацыі, з якімі традыцыйна і звязваецца літаратура, пачынаюць выконваць другасную, часам прэзентацыйную і калекцыйную ролю. Да такіх шкал, узнікшых на працягу бягучага стагоддзя, можна аднесці новыя віды мастацтва. Аднак, нягледзячы на апакаліптычныя прадказанні, кіно не выцесніла тэатр, відэа не знішчыла кіно. У сусвеце мастацтва з'яўляюцца новыя галактыкі, якія не выклікаюць катастрофаў, аднак істотна змяняюць траекторыю рухаў розных аб'ектаў. Перад літаратурай і літаратурным аналізам цяпер стаіць звышзадача актуалізацыі тых функцыяў, якія не могуць рэалізаваць відэа і камп'ютэр і якія, адпаведна, не падлягаюць віртуалізацыі.

"Не варта думаць, што Логас ёсць адзіны цэнтр энергіі, выяўлены Прабраманам. Існуюць незлічоныя іншыя" (Блавацкая).

У літаратуры гэта праяўляецца у адсланенні чытача ад тэксту, аўтара ад чытача і іх сукупным адпрэчванні інтэрпрэтатара (інстытутаў крытыкі, выкладання і г.д.). На ўзроўні адносінаў непасрэдна ў саміх групах чытачоў, інтэрпрэтатараў, аўтараў гэта выглядае як дзяленне на групоўкі і суполкі па густу, метаду, асабістых схільнасцях і г.д.), пры гэтым суполачнасць, дыферэнцыяцыя даходзіць да адзінак і працягвае раскладваць кожную канкрэтную адзінку на драбнейшыя элементы — меркаванні кожнай канкрэтнай асобы у пэўны адрэзак часу.

Пачатковы элемент пісьма — знак, ён з'яўляецца метафарай мапы і захоўвае ў сабе траекторыю перамяшчэння.

І разам з тым з'яўляецца сканцэнтраваным поглядам на аб'ект і на ўсю сукупнасць аб'ектаў з пэўнай дыстанцыі. Размыванне контураў рэчаіснасці вядзе да самазнішчэння і знакавай прасторы. Ідэя "скрозь слова" пераліваецца ў ідэю "скрозь знак", "скрозь след", "скрозь траекторыю".

Трансемны аспект транслагізму прадугледжвае амройванне межаў паміж вызначаным малюнкам і явай, калі падарожнік, незаўважаючы, пераходзіць з канцэпта "геа" ў канцэпт "графіі". У такім прачытанні любыя назоўнікі, што звязаны з канкрэтнымі ці абстрактнымі з'явамі, робяцца тоеснымі.

Аналіз тэксту і актуалізацыя тых ці іншых зместаў ператвараюцца ў сакральны акт, дзе рацыянальныя і вербальныя сродкі выконваюць эмблемную функцыю.

Актуальна можна артыкуляваць: часавае пашырэнне светаўяўлення, якое ўключае эмпірычны вопыт продкаў, постінкарнацыйнае існаванне, адноснаэвалюцыйны вынік; прасторавае пашырэнне светаўяўлення, якое мае ідэнтыфікацыю з іншымі асобамі, жывёламі, раслінамі, мінераламі, касмічнымі аб'ектамі, стодамі, ідэалагемамі, тэзамі; прасторавае звужэнне светаўялення да пэўнай часткі цела, прадмета, умоўнай малекулы, атама, лептона.

Усведамленне лагем, што выходзяць за межы аб'ектыўнай рэчаіснасці — тонкіх вогненных светаў, архетыпічных комплексаў, аспектаў міфалагічных сюжэтаў, простае (прамое) разуменне універсальных сімвалаў, кантроль чакр, успрыняцце універсальнай метакасмічнай асобы.

Семы (мембраны) Бум-Бам-Літа, якія часткова з'яўляюцца метанімным пераўвасабленнем Табалы-s-ТЭТ, утвараюць адну з функцыярухаючых тэкставых адтулін для пераходу ў мэтавыя лагемы.

Жанна ВАСАНСКАЯ



## КОНЬ З МАНІФЕСТАМ

Я нарадзілася жанчынай! Крах! Жаночая доля круціла, крыжавала, пляжыла — пакуль не закінула мяне ў літаратурную прастору. Вось тут і прыйшоў бум-бам маёй жаночай філасофіі, паэзіі, прозы і шызалогіі ў прыватнасці. Але разам з тым у гэтай прасторы я набыла свой "цвік" (не блытаць з "мэталёвым цьвіком" Ю.Гуменюка) — вынайшла дыягназ жаночых хвароб: каняку з бляклымі крыламі. З таго, што я часам ператваралася ў гэтага летуна, мне было дазволена блытацца сярод мужчын са сваім "цвіком" (смуродам, пахам, сцёбам, дахам, бумам, бамам).

Натуральна, можна было б згадаць з гісторыі літаратуры і іншых жанчын з крыламі, ды й на гэтым скончыць гаворку, каб не адна фраза, пачутая спіноўй: "Жанна Васанская не ёсць Марыя Сцюарт..."

Ільля СІН



## МАНІФЭСТ X

X зьяўляецца задзіночаньнем людзей, *якім надакучыла.* Нудота — вось што забівае нас, але адначасова і падштурхоўвае да дзеяньня, і мы нешта чынім, пішам творы і ствараем усялякія літаратурныя аб'яднаньні і партыі.

**Мэта X:** 1. Уплыў яе сяброў на аб'ектыўнае становішча рэчаў. У гэтым дачыненьні X зьяўляецца не арганізацыяй дэмакратычнай, а хутчэй аўта-таталітарнай, бо за мэту прымаецца неабмежаваны ўплыў нейкай абмежаванай колькасьці асобаў на шырокія плясты грамадзтва.

2. Зьвяржэньне з пастамэнту аб'ектыўных ісьцінаў і замена іх суб'ектыўнай бязглузьдзіцай. Кожны чалавек мае права абсталёўваць сьвет на свой лад.

3. Зьдзек са сьвятыняў (маральныя ўстоі, культура, гэрархіі каштоўнасьцяў і г.д.). Мы не сьцьвярджаем, што яны недасканалыя, але ўсё, што створана, мусіць быць дэканструктавана на ўзроўні асобы.

**Шляхі дасягненьня:** эпатаж і буйнамаштабныя правакацыі. Эпатаж — сродак самаабароны Асобы ў грамадзтве эпохі постмадэрнізму.

Зьяўляючыся па сваёй сутнасьці арганізацыяй квазіпалітычнай, X пакідае за сабой права ўмяшальніцтва на ўзроўні эпатажу ў вялікую палітыку. Глябальныя ідэі заўсёды дэтэрмінуюць асобу чалавека, але чалавек мусіць быць вольны абвяргаць і дэканструктаваць іх творчасьцю свайго эпатажу. Арганізацыі, зь якімі ў гэтай сфэры можа супрацоўнічаць X — усе квазіпалітычныя фармацыі як левай, гэтак і правай скіраванасьці — ад "Правага рэваншу" да анархісцкіх Левага студэнцкага руху і "Чырвонага жонду".

X ня можа мець пэўнай структуры і не прадугледжвае аніякіх кіраўнічых пасадаў. Індывідуальнасьць кожнага зь яе сяброў мусіць напоўніцу прымацца ўсімі. З гэтай жа прычыны арганізацыя ня можа мець аніякае агульнапрынятае сымболікі і мастацкіх прынцыпаў.

Альгерд БАХАРЭВІЧ



## МОЙ МАНІФЕСТ ТВОРЧАГА РУХУ БУМ-БАМ-ЛІТА

### Трагедыя ў двух актах

Дзеючыя асобы: ПАЭТ
ГРАМАДЗЯНІН
КЛЯСЫК X

### АКТ 1

*ПАЭТ і ГРАМАДЗЯНІН спароўваюцца.*

ПАЭТ (без надрыву, роўным голасам):

Не, мой дружа, я ня першы
Хто пачаў камечыць словы
Напісаны мной ня вершы —
Зьдзекі зь беларускай мовы
Пачытайце лепей Броўку
Пачытайце Куляшова
Там дапросы і лістоўкі
А ня зьдзекі з роднай мовы
Вершы пішуць пра каханьне
Пра спатканьне, разьвітаньне
Ці пра гусі зь Беларусі
Пра Чарнобыль. Пра Марусю.
А мае радкі як лекі
Ад якіх памрэш здаровы
Не паэзія, а зьдзекі —
Зьдзекі зь беларускай мовы

*ПАЭТ робіць сабе харакіры.*

Грамадзянін — ён да!

*КЛЯСЫК X НЕ ПАСЬПЯВАЕ.*

### АКТ 2

*ГРАМАДЗЯНІН і КЛЯСЫК X спароўваюцца.*

ГРАМАДЗЯНІН *(з мэнтальнай годнасьцю):*

Ты зазірні ў жаночы туалет
Там малады хаваецца паэт
Побач з гэтым паэтам — шкілеты
Там былі і старыя паэты.

*КЛЯСЫК X НЕ ПАСЬПЯВАЕ.*

Абодва паміраюць у жахлівых сутаргах.

*На сцэну выходзіць ПАЭТ.*

ПАЭТ *(клімуком):*

Зазірніце мне ў рот (я вам верш
пазяхаю),
Там пануе заўжды некрануты смурод
Там заўсёды вяртаюцца ўсе будулаі
Там жыве працавіты і мужны народ
Зазірніце мне ў рот без агіднай агіды
Быццам доктар, што мусіць забіць
пацыента
Хай пакоціцца яйкам сярод інвалідаў
Жоўты смокінг са ...
Гідрамэтцэнтра!

*Заслона зьнікае.*

**БУМ-НАВІНА**

**Калі гэты выпуск ЗНО быў ужо звярстаны, мембры (слупы, зрухары, бубнары і г.д.) Бум-Бам-Літа ўсеагульным грукатаннем вырашылі надаць Акудовічу Валянціну, слупу ад нараджэння, тытул БЕССМЯРОТНАГА ХРОСНАГА БАЦЬКІ БУМ-БАМ-ЛІТа, а таксама ганаровае права першачарговага бумкання ў Тазік "новай літаратуры".**

**ШТАБ ББЛ**

Архіў

# ГІСТОРЫЯ, альбо ПРАЎДЗІВАЕ АПІСАННЕ ЖЫЦЦЯ СВЯТЫХ ВАРЛААМА І ІАСАФА

## РАМАН, ЗАБЫТЫ НА СТАГОДДЗІ

Магутная хваля вяртання нашай спадчыны абмінула перакладныя творы старабеларускай літаратуры. Шырокая публіка троху ведае аб існаванні беларускага тэкста "Трыстана і Ізольды" (Трышчана і Іжоты); тыя, хто атрымаў філалагічную адукацыю, маюць уяўленне аб свецкіх перакладных кнігах "Александрыя", "Аповесць аб Троі"... Мала хто назаве болей...

А між тым Максім Гарэцкі ў сваёй кнізе "Гісторыя беларускае літаратуры" зазначаў: " (...) у XVII стагоддзі былі асабліва пашыраны перакладныя повесці, а нават рабіліся й новыя пераклады". Сама сабой напрошваецца высноза аб значным уплыве перакладной літаратуры на светапогляд тагачаснага чалавека, аб яе вялікай ролі ў ягоным жыцці.

Сярод прыкладаў перакладной літаратуры XVIIст. М.Гарэцкі першай называе "Гісторыю, альбо Праўдзівае апісанне жыцця святых Варлаама і Іасафа", выдадзеную ў 1637 годзе ў друкарні праваслаўнага Куцеінскага Багаяўленскага манастыра (паблізу Оршы, зараз — у межах горада).

На гэтым рамане варта спыніцца асобна. Ён заслугоўвае гэтага хаця б таму, што вядомы больш чым на 30 мовах народаў Азіі, Еўропы ды Афрыкі: персідская, уйгурская, 5 арабскіх версій, 2 грузінскія і грэцкая, якая паходзіць ад адной з іх; зробленыя з грэцкай 2 лацінскія, старажытнаславянскія, армянскі ды эфіёпскі пераклады; паходжаннем ад аднаго з лацінскіх перакладаў 9 італьянскіх, 8 старафранцузскіх, 5 гішпанскіх, правансальская, партугальская, нямецкая, чэшская, польская, англійская, ірландская, галандскія версіі й г.д.

Годнае месца сярод іх займае і беларускі варыянт. Як адзначае М.Нікалаеў у сваёй кнізе "Палата кнігапісная" (Мн., 1993), найбольш ранні на Беларусі спіс гэтага рамана датуецца XIVст. і паходзіць з Наваградскага базыльянскага кляштара.

Захад жа, паводле сцверджанняў І.М.Лебедзевай (И.Н.Лебедева. Повесть о Варлааме и Иосафе. Л., 1985), "упершыню ўведаў" грэцкую Аповесць з двух сярэднявечных лацінскіх перакладаў, асабліва з другога, які шырока распаўсюдзіўся па краінах Еўропы, пачынаючы з XIIст." У гэтым перакладзе аўтарам кнігі быў названы Іаан Дамаскін, вялікі багаслоў, філосаф і паэт, адзін з айцоў усходняе царквы, далучаны ёю да ліку святых.

(Трэба зазначыць, што спрэчкі аб аўтарстве рамана аб Варлааме і Іасафе, відавочна, збілі з тропу каментатараў кнігі М.Гарэцкага "Гісторыя беларускае літаратуры" Т.С.Голуб, І.В. Саверчанку, Я.Я.Янушкевіча, і яны таксма прыпісалі твор Іаану Дамаскіну. У вышэйзгаданай працы І.М.Лебедзевай распавядаецца пра гісторыю даследавання кнігі й даводзіцца няслушнасць такога меркавання.)

Доўгі час лічылася, што раман аб Варлааме і Іасафе з'яўляецца хрысціянізаванай версіяй жыццяпісу Буды. Аднак на думку ўсходазнаўцы-тыбетолага Б.І.Кузняцова, і жыццяпіс Буды, і раман паходзяць з пашыраных на Усходзе аповедаў пра цара і яго праведнага сына — гэта значыць, абодва яны маюць агульную крыніцу дабудыйскага паходжання.

У звязку з гэтым цікава адзначыць той факт, што героі твора ўспрымаліся як рэальныя асобы, некалі існаваўшыя. Так, сярэднявечную лацінскую версію з XIIIст. сталі ўключаць у зборнікі жыццяў святых. Па словах І.М.Лебедзевай, у пачатку XIII ст. Варлаам і Іасаф шанаваліся ў Сербіі як святыя, прычым культ іх быў туды занесены, відавочна, з Афрыкі.

Як піша Х.Л.Борхес у эсэ "Версіі адной легенды", кардынал Цэзар Бароній уключыў Іасафа ў свой Рымскі мартыралог (1585 — 1590).

У XVIст. былі вядомыя нават мошчы святога царэвіча Іасафа. Спачатку яны знаходзіліся ў Венецыі, але ў 1571г. дож горада Луіджа Мачэніга падарыў іх партугальскаму каралю. У XVII ст. яны апынуліся ўжо ў Антверпене ў кляштары святога Сальватора.

Але раман аб Варлааме і Іасафе не толькі пачаў "матэрыялізоўвацца". Ён сам з'явіўся сюжэтам для мастацкіх твораў. Так, кніга "Вершы духоўныя" (Стихи духовные. М., 1991) змяшчае вершы "Іасаф і Варлаамій" і "Плач царэвіча Іасафія".

На сюжэт кнігі стваральнік гішпанскай драматургіі Лопэ дэ Вега напісаў драму "Варлаам і Іасаф". Борхес у вышэйпрыгаданым эсэ піша: "Намаганням Хакона Хаканарсана Ісландыя абавязана з'яўленнем у сярэдзіне XIII стагоддзя сагі аб Варлааме".

Асобна трэба сказаць аб прыпавесцях, на якія багатая кніга. Напрыклад, прыпавесць аб адзінарогу прыгадваецца ў французскіх зборніках "прыкладаў" і прыпісваецца святому Бернару (гл.Гуревич А.Я. Культура и общество средневековой Европы глазами современников. М., 1989. С.95). Яна знайшла адлюстраванне і ў выяўленчым візантыйскім, заходнееўрапейскім і рускім мастацтве.

Другую прыпавесць (пра чатыры скрыні) выкарыстаў Шэкспір у "Венецыянскім купцу".

Такім чынам, відавочна, што раман быў значным складнікам літаратурнага і грамадскага жыцця Еўропы.

Верагодна, не меней значным твор быў і для жыхароў Беларусі. Нездарма ж Куцеінская друкарня выдала кнігу ў трох варыянтах (пра гэта — ніжэй).

Варта коратка спыніцца на змесце "Гісторыі, альбо Праўдзівага апісання жыцця святых Варлаама і Іасафа".

У індыйскага караля Авяніра, які праславіўся сваім жорсткім пераследам хрысціянаў, нараджаецца сын Іасаф. Мудрэц-астролаг прадказвае царэвічу слаўнае жыццё ў хрысціянскай веры. Цар загадвае не выпускаць сына з палаца, каб той не даведаўся ні пра смерць, ні пра старасць, ні пра хваробы, ні пра калецтвы і каб не чуў ніводнага слова пра хрысціянства.

Але Іасаф даведваецца пра хрысціянства ад настаўніка, які таемна верыў у Хрыста. Потым на праходцы ён бачыць двух калек, старога і дазнаецца аб смерці.

Прыезд пустэльніка Варлаама давяршае навярненне каралеўскага сына ў хрысціянства. Большая частка рамана адводзіцца дыялогу паміж Варлаамам і Іасафам. Тут і прыводзяцца ўжо згаданыя прыпавесці...

Пераклад рамана, выдрукаваны ў Куцейне, зроблены намеснікам Магілёўскага брацкага манастыра Іосіфам Палоўкам. Само выданне, як ужо гаварылася, вядомае ў трох варыянтах (у Нацыянальнай бібліятэцы захоўваецца, як можна меркаваць, трэці, але, верагодна, гэта дэфектны экземпляр: адсутнічае тытульны аркуш).

У першым яно прысвячаецца Сільвестру Косаву, епіскапу Мсціслаўскаму, Аршанскаму і Магілёўскаму. У другім варыянце прысвячальная прадмова звернутая да мітрапаліта Кіеўскага і Галіцкага Пятра Магілы. У трэцім варыянце прысвячэння ўвогуле няма.

Выданне заканчваецца духоўным вершам "Песня святога Іасафа" (расейская варыяцыя "Плач царэвіча Іасафія" ўжо згадвалася вышэй).

Нягледзячы на тое, што на тытульным аркушы крыніцай для перакладу ўказваюцца грэцкі й "словенский" тэксты, у адных сваіх частках куцеінскае выданне перакладзена са старaславянскай, а ў іншых — з лацінскай моваў.

Верагодна, чытачам будзе цікава пазнаёміцца з прыпавесцямі рамана. Таму я ўзяў на сябе смеласць перакласці некаторыя з іх са старабеларускай мовы ў сучасную і прапанаваць да друку. На іх прыкладзе можна не толькі пазнаёміцца з вобразным ладам твора, але і пабачыць, як рэаліі Беларусі XVII стагоддзя накладаліся на літаратурны твор.

**Перакладчык**

## ПРЫПАВЕСЦІ

### І

Быў некалі адзін вялікі й славуты кароль, якому, калі ён на залатым возе з немалым рыцарствам, вартым яго каралеўскай велічы, ехаў, сустрэліся два чалавекі ў абарванай і бруднай адзежы, з твару худых і дужа бледных. Каралю тады вядома было, што са знясілення цялеснага і з працы жыцця, Богу прысвечанага, цела сваё так высушылі. Таму, пабачыўшы іх, з воза хутка саскочыў і да зямлі ён ім пакланіўся, а падняўшыся, вельмі прыязна іх абдымаў і вітаў. Сенатары яго і набліжаныя зазлавалі з той нагоды, разумеючы той учынак супраціўным велічы каралеўскай. Але ніхто з іх яўна дакараць яго за тое не наважыўся, (а) роднага брата яго накіравалі, каб каралю нагадаў, каб стану свайму зацнаму і высокаму такой зняважы й ганьбы не чыніў. А калі ён брату свайму пра тое паведаў і непрыстойнае і малакарыснае яго прыніжэнне зганіў, водпаведзь яму кароль учыніў, якой той і крыху не зразумеў.

Звычай быў у караля, што, калі меў каго смерцю скараць, вознага з трубою, якая праз гэта смяротнаю называлася, да брамы пасылаў. І ад трубнага зыку ўсе пазнавалі, хто мусіў памерці. І так пад вечар з трубным агалашэннем пад дзверы брата свайго кароль паслаў. Пачуўшы гэта, той заляманатаў аб сваім здароўі й усю ноч адкрытым дом свой трымаў. Ранкам, у чорнае і жалобнае адзенне прыбраўшыся, з жонкаю і дзецьмі, плачучы й наракаючы, пайшоў ён да палаца каралеўскага. А калі кароль яго да сябе дапусціў і так, у слязах, пабачыў, такія словы да яго звярнуў:

## "... А КАЛІ ГЛЯНУЦЬ З ІНШАГА БОКУ?"

Францішак Карпінскі (1740-1825) — адзін з самых славутых паэтаў Рэчы Паспалітае апошняе чвэрці XVIII стагоддзя. Ягоныя творы шмат разоў перавыдаваліся, іх чыталі, перапісвалі ў беларускіх маёнтках і шляхецкіх засценках. Асаблівай папулярнасцю карысталіся ягоныя "Набожныя песні" — рэлігійныя вершы для простага люду. (Дастаткова згадаць, што "Ранішнюю песню" выкарыстaлі ў сваіх творах Я.Баршчэўскі і В.Дунін-Марцінкевіч.) І хоць пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітае Ф.Карпінскі амаль нічога не пісаў, ягоная паэтычная слава пашыралася і ў XIX стагоддзі.

Больш за трыццаць гадоў жыцця паэт правёў на Беларусі: спачатку арандаваў маёнтак Сухадоліна (Гародзеншчына), пасля Краснік (Пружанскі павет) і, урэшце, купіў Хораўшчыну (Ваўкавыскі павет). Ён добра ведаў жыццё, быт і мову беларусаў, любіў беларускі фальклор. І, пэўна, толькі прынцыповае нежаданне займацца літаратураю (няма Рэчы Паспалітае — непатрэбна і паэзія) пазбавіла нас твораў з беларускімі матывамі. Зрэшты, Ф.Карпінскі яшчэ раней выкарыстоўваў беларускі фальклор. Польскія даследчыкі адназначна сцвярджаюць, што фрывольныя вершы паэта "Пайшла маладая Марыся па ракі", "Да мяне, да мяне, хлопцы", "Песня Марысі да Янкі" напісаны паводле беларускіх народных песняў інтымнага зместу.

З беларускім фальклорам звязаны і адзін з апошніх твораў Ф.Карпінскага "Падарожжа па зачараваным краі". Беларуская загадка "Прыехалі камісары і забралі гаспадары, а дом акном уцёк" (Рыбакі, рыба, вада і невад) у крыху змененым выглядзе сталася складовою часткаю гэтага маленькага празаічнага шэдэўра Ф.Карпінскага.

Дыханне фальклору адчуваецца ў кожным радку "Падарожжа...". Гэта і мост, па якім ідуць на той свет, і закамянелыя героі, і соннае каралеўства ды іншае. Праўда, паэт выкарыстоўваў фальклор з пэўнымі мэтамі: ён прагнуў паказаць, як аднабаковы погляд на свет можа прывесці да памылковага разумення з'яў і прадметаў рэальнасці. Можна разглядаць "Падарожжа па зачараваным краі" і як рэакцыю на раман жаху мадам Радкліф, і як непрыняцце чалавекам Асветніцтва ідэй рамантычнае школы, што ўжо заявіла пра сябе ў Еўропе.

Зыходным пунктам "Падарожжа па зачараваным краі" стала сапраўднае падарожжа Ф.Карпінскага ў 1801 годзе з Пулаў на Валынь у маёнтак Тэафільполь крайчае Тэафілі Сапегі, якой паэт яшчэ ў 1794 годзе пазычыў на два гады 2000 дукатаў, а цяпер, марачы "купіць сабе вёску", імкнуўся вярнуць доўг. Падарожжа было безвыніковым. Грошай паэт не атрымаў, дык, мусіць, невыпадковыя ў творы такія злосныя выпады супраць княгіні.

Невыпадковая, думаецца, і назва твора. Паэт, які за сваё жыццё паспеў пабываць у розных краінах, відаць, меў падставы лічыць Расійскую імперыю "зачараваным краем": непрадказальнасць, страх і дзікунства, што неслі расійскія парадкі на зямлі былога Вялікага княства Літоўскага як нельга лепш супастаўляліся з раманамі жаху мадам Радкліф.

**Перакладчык**

Францішак КАРПІНСКІ

# ПАДАРОЖЖА ПА ЗАЧАРАВАНЫМ КРАІ

Ледзь я пераправіўся праз Божую рэчку, што адасабляе зачараваны край ад рэшты зямлі, як неспадзявана пабачыў дзіўныя і жахлівыя відовішчы, больш праўдзівыя, чым падобныя на праўду.

1 НЕДЗЕ ПРАЗ ГАДЗІНУ падарожжа, на адлегласці не больш за чвэрць мілі, зямля, якая ў гэтым месцы пакутавала, пэўна, ад нейкага гвалту, кідала вышэй дрэў якіясь камлыгі памерам у колькі локцяў і, узняўшы ў паветра на аднолькавую вышыню, апускала іх у тое самае месца, дзе брала.

2 ЯШЧЭ на гэты глядзеў цуд, як новае відовішча прыцягнула маю ўвагу. Гурт людзей, з выгляду падобных на ліхадзеяў (можа, і ўбогасць, якую на іх бачыў, была прычынаю гэтага), ачапіў дом на маім шляху, відавочна, з мэтаю рабунку ды забойстваў. Адзін супраць стольніх разбойнікаў — я не мог ратаваць тых, хто трапіў у небяспеку, дык пра адно толькі марыў, каб жыхары як-небудзь уцяклі з свайго дому; аднак усё інакш: дом пад выкрыкі тых лотраў (дзіўная рэч!) уцёк, а злоўленых жыхароў яны жахліва мардавалі ў мяне на вачах

3 УСТРЫВОЖАНЫ гэтаю лютасцю, я з'язджаў як можна хутчэй з тае дзікае мясціны ды тут убачыў чалавека, што скакаў на кані насустрач мне. За ім роўным конскаму бегу крокам гнаўся нейкі чорны волат на такой жа чорнай жывёліне, якая разам з вершнікам каля дваццаці, можа, локцяў мела ў вышыню. Гэты нешчаслівы на такога таварыша свайго падарожжа, пэўна, не зважаў, а вось у мяне тая аграмадная здань яшчэ дасюль не выйшла з думак.

4 УЖО ПРЫЙШОЎ ЧАС растрывожанаму столькімі жахлівымі відовішчамі шукаць начлег, і я знайшоў яго ў доме нібыта гасцінным, але з прычыны ўсеагульнае ў гэтым краі нядолі таксама жудасным. Начаваць давялося ў вялікім пакоі, дзе апрача агню ў куце ды пеўня, які часам пранізліва спяваў, не было бачна аніводнае жывое душы. Больш за гадзіну, пакуль сяк-так заснуў, даносіліся да мяне праз загароджаныя ў другі пакой дзверы толькі два галасы. Там якісь раз'юшаны кат мучыў нявінную, пэўна, ахвяру. Чуў я адно слова "gehar", грозна паўтаранае тым вылюдкам сотні разоў, і за кожным разам пакутнік плачлівым голасам прамаўляў колькі выразаў на незразумелай мне мове. Я, што шмат у жыцці адпакутаваў і маю сэрца схільнае да літасці, хацеў дапамагчы прыгнечанаму, але затрымала мяне думка, у якім гэта я краі знаходжуся, што неспадзявана пабачыў і што са мною самім можа яшчэ здарыцца, дык чакаў у неспакоі дня, які рыхтаваў для мяне яшчэ большыя жахі.

5 ПАСЛЯ НАЧЛЕГУ праз нейкую гадзіну падарожжа я ўбачыў надзвычай жахлівага чалавека, які труп маці, што ягоных дзяцей карміла, рассякаў сякераю напалам ды, пэўна, ад шалу грыз дрэва, і слёзы ліліся з ягоных вачэй. Колькі чалавек, што блізка каля яго стаялі, не толькі не перашкаджалі яму займацца бязбожнаю справаю, але яшчэ, здавалася, мелі нейкае задавальненне з гэтага. Гаротны край, падумалася, як жа тут далёка дзікунства, як далёка няўдзячнасць зайшла між людзьмі!

6 ЯК МАГА ДАЛЕЙ уцякаў я з тае мясціны, але мне перагарадзіла шлях рэчка з паромам — і зноў новае відовішча! Каля самага парома праз рэчку — мост, па якім штогод ідуць тысячы асуджаных на

ЗНО

Адкрытая прастора

## ПРАДМОВА ДА ФРАГМЕНТАЎ З "ВЫБУХУ КАМУНІКАЦЫІ"

***Не перастае здзіўляць своеасаблівасць заходнееўрапейскіх і англаамерыканскіх тэкстаў, што апошнім часам пачалі перакладацца на беларускую мову: іх дыскурс, пры ўсёй семантычнай зразумеласці чытва, як бы магічна ўнікае прамога зразумення зместу кніг, раздзелаў, пэўных пасажаў... Гэта значыць, што арыгінальны падтэкст гэтых культуральных рэчаў у поўным аб'ёме пакуль што недаступны нашаму тэкстуальнаму мысленню. Відаць, чужая інтэлектуальная (шырэй — ментальная) традыцыя на тое і чужая, каб не дацца да зразумення так проста... Заходні інтэлектуалізм, адназначым, дагэтуль увогуле не вельмі быў даступны да засваення на савецкім абшары, менавіта ў Беларусі (агульны брак перакладаў); апроч таго, тое з заходняй думкі, што перакладалася, непазбежна адаптавалася да расейскага мыслення — здымаліся ўсемагчымыя падтэксты і падсэнсы, выэлімінёўваўся які-кольвек "дэканструктывізм" ці то "структуралізм" у пабудове тэкстаў, стылістыцы. Карацей кажучы, перакладныя тэксты пазбаўляліся той самай "камасутры мовы", на якой узраслі Хайдэгер, Барт... уся літаратура постмадэрнізму.***

***Вось жа цяпер з'яўляюцца магчымасці закласці ўласнабеларускую культуралагічную перакладчыцкую традыцыю — дзякуючы Беларускаму Фонду Сораса і каардынатару яго выдавецкіх і культурных праграм, кандыдату філасофскіх навук сп. Алесю Анціпенку. Дзякуй ім за тое! Справа гэтая нялёгкая, і, можа быць, не столькі з-за лінгвістычных прычын, колькі — метафізічна. Скуль жа перакладчык з французскай Алесь Мароз мог ведаць пра "д'ябла-энтрапію" Н.Вінэра? Тым часам у інтэлектуальным жыцці Еўропы, Захаду (прыкладны аспект) камунікацыя сталася ці не асновалеглым паняткам і аб'ектам досведу. Чалавецтву ўвесь час пагражае ўнутраны д'ябал — скажэнне каналаў камунікацыі, брак паразумення, элементарны брак інфармацыі... Па вайне Захад таму і кінуў усе сілы на тое, каб перамагчы гэтага камунікацыйнага д'ябла — у скутку паўстала камп'ютэрна-інфармацыйная цывілізацыя... Цікава, аднак жа, ведаць, якую рэакцыю ў Н.Вінэра — непрыяцеля капіталізму, камунізму, царквы і арміі — маглі б выклікаць камунікацыйныя "изыски" ў прэзідэнцкай Беларусі...***

**Юрась ЗАЛОСКА,**
**рэдактар, галоўны рэдактар Незалежнай выдавецкай кампаніі "Тэхналогія"**

## КАМУНІКАЦЫЯ: УТАПІЧНА-ГАРМАНІЧНАЯ ІДЭАЛОГІЯ

<...> Каб лепш зразумець значэнне, якое набыла камунікацыя ў нашым грамадстве, трэба абавязкова зрабіць гістарычны экскурс і перанесціся ў перыяд непасрэдна пасля заканчэння Другой сусветнай вайны. Саракавыя гады, бясспрэчна, — ключавыя моманты для ўзнікнення сучаснага паняцця "камунікацыя", якое мае гістарычнае значэнне. Пры ўсёй знешняй навізне сучасныя ідэі, датычныя камунікацыі і яе ролі ў грамадстве, амаль цалкам распрацаваны адразу пасля апошняй вайны.

Сучасны ідэал камунікацыі грунтуецца на трох радыкальных трансфармацыях, разуменне якіх дае ключ для тлумачэння калі не ўсяго сучаснага перыяду, то, прынамсі, некаторых істотных яго аспектаў.

Перш за ўсё гэта вызначэнне **новага чалавека**. У выніку сапраўднай мутацыі, якую перажыло ўяўленне пра чалавека, кібернетыка, зусім новая навука пра камунікацыю, створаная Норбертам Вінэрам (Wiener) у 1942 г., даючы вызначэнне чалавека, паставіла на першае месца камунікацыйную ролю, чаго ніколі не было раней. У гэтым сэнсе правамерна было б гаварыць пра "вінэраўскага чалавека", як мы гаворым пра "неандэртальскага чалавека", — настолькі радыкальная антрапалагічная канцэпцыя, што ляжыць у аснове грамадства камунікацыі.

Потым ідзе стварэнне **новай ідэалогіі** — ідэалогіі камунікацыі. Яна ўяўляла сабой альтэрнатыву ідэалогіям варварства, сутыкненне якіх выклікала новую "трыццацігадовую вайну", што, як сказаў Джордж Штайнер (Steiner) спустошала свет з 1915 па 1945 гады. Новая ідэалогія, вызначыўшы ў якасці "ворага" шум, энтрапію, дэзарганізацыю, сваім поспехам часткова, безумоўна, абавязана таму факту, што яна паўстае як ідэалогія без ахвяр ва ўмовах, калі халодная вайна і пагроза ядзернага халакосту прыйшлі на змену самай крывавай вайне, якую калі-небудзь зведала чалавецтва.

І нарэшце, праект **новага грамадства** — "грамадства камунікацыі". Гэтая новая сацыяльная утопія ў тым выглядзе, як яе ўяўляў бацька кібернетыкі, мае дзве адметныя рысы: з аднаго боку, гэта будзе сацыяльная арганізацыя, прызначаная для распаўсюджання інфармацыі; з другога боку, машыны, у прыватнасці, машыны, што выкарыстоўваюцца для камунікацыі, адыгрываюць у ім вырашальную ролю. Галоўная прычына існавання гэтага новага грамадства — узрастанне энтрапіі, што дэзарганізуе чалавечае грамадства і, натуральна, вядзе да яго разбурэння.

Вядома ж, Норберт Вінэр не быў першым, хто падкрэсліваў значэнне камунікацыі ў чалавечым грамадстве. Іншыя навукоўцы ўжо звярталі ўвагу на гэтую тэму на пачатку XX ст., у прыватнасці такія антраполагі, як Г.Х. Мід (Mead), або з 1936 г. Грэгары Бэйтсан (Bateson). Сіла мыслення Вінэра палягала на тым, што ён цалкам перамяніў акцэнты, прадставіўшы камунікацыю не як "важную тэму", але як цэнтр усяго, і на аснове гэтага пабудаваў новую утопію.

## ПАГРОЗА САЦЫЯЛЬНАЙ ЛУЧНАСЦІ

У першай частцы гэтай кнігі мы бачылі, што значэнне метадаў камунікацыі ў асобныя перыяды гісторыі заходняга грамадства (Рымская рэспубліка, Адраджэнне, Французская рэвалюцыя) нечакана ўзрастала. У іншыя ж моманты, нават калі гэтыя базавыя метады, напрыклад, кніга, існавалі, яны не выкарыстоўваліся для мэт камунікацыі на сістэматызаванай аснове. Мы падкрэслівалі, наколькі метады камунікацыі, іх развіццё і выкарыстанне залежалі ад глыбокіх сацыяльных зменаў.

Падобна на тое, што вялікія гістарычныя моманты, падчас якіх сацыяльная камунікацыя інтэнсіўна развівалася, адпавядаюць перыядам, калі адбываліся значныя трансфармацыі самога ўяўлення пра чалавечую асобу і яе месца ў сацыяльнай групе: усталяванне інстытута рымскага грамадзянства і ідэі грамадскага дагавора ў антычную эпоху або такое неверагоднае змяненне, якім сталася сцвярджэнне паняцця суверэнітэту народа падчас Французскай рэвалюцыі. З таго моманту, як сацыяльная група была вызвалена ад улады пэўнага суверэна, і пасля таго як, праз наданне статусу грамадзяніна сталі адрозніваць індывідуумаў, камунікацыя і яе метады пачалі выконваць вельмі істотную функцыю: утрымліваць індывідуума ў групе, забяспечваць пастаянную грамадскую сувязь.

Інтэнсіўнае развіццё камунікацыі і яе метадаў, пачынаючы з канца XVIII ст., безумоўна, звязана з падзеннем манархіі ў Францыі і, у прыватнасці, з пакараннем смерцю караля, сімвалічны зарад якога быў велізарным і зрабіў неабходным перабудову існаваўшых у грамадстве сувязей. Цяпер мяняўся напрамак камунікацыі: з вертыкальнай — паміж суверэнам і яго падданымі — яна рабілася пераважна гарызантальнай і ажыццяўлялася паміж грамадзянамі з роўнымі правамі. Пры адсутнасці суверэна грамадская прастора па сутнасці магла ўтварыцца толькі вакол камунікацыі і яе метадаў. Рэнэ-Жан Раволь (Ravault) падкрэслівае ў сувязі з гэтым, што "адначасовае ўзнікненне сучаснага ладу жыцця і камунікацыі засноўвана на двайной падмене. Бога замяняў картэзіянскі розум, а паняцце грамады замянялася паняццем індывідуума". Ён дадае, што "менавіта гэтая апазіцыя грамады і індывідуума дазваляе добра зразумець адзін з ключавых аспектаў адметнасці сучаснай амерыканскай канцэпцыі камунікацыі і ўбачыць, у чым

# ВЫБУХ

яна прынцыпова супярэчыць канцэпцыі культурнай самабытнасці, якая з'яўляецца не чым іншым, як рэстаўрацыяй (пад выглядам культурнай супольнасці, якая такім чынам абагульваецца) сілы, што пераўзыходзіць індывідуума..."

"Ідэалогія" камунікацыі, што нарадзілася ў 40-я гады ва ўмовах амерыканскага грамадства, вядома ж, узяла на ўзбраенне гэтыя канцэпцыі сацыяльнай згуртаванасці. Але да апалогіі "адрыву ад каранёў", "мабільнасці" і "экстэрытарыяльнасці", што сталі каштоўнасцямі, на якіх будуецца структура "сучаснага грамадства", яна дадала яшчэ адзін параметр: пагрозу, што навісла над усім грамадствам у цэлым, над той групай, якую ўтварае чалавецтва род у сваіх адносінах са светам. Грамадству пагражае, як кажа Вінэр, энтрапія, разбуральная сіла, што падрывае яго знутры. У далейшым гэтая аргументацыя шырока выкарыстоўвалася, каб апраўдаць выкарыстанне камп'ютэраў, якое стала неабходным з-за пагражальнага ўзрастання складанасці грамадства, што несла ў сабе патэнцыял разбурэння. Уключэнне ў сацыяльную праблематыку гэтай пагрозы ў вялікай ступені звязана, відавочна, з трагічнымі падзеямі, якія скаланулі сярэдзіну XX ст.

## НОВАЯ ІДЭАЛОГІЯ

Нараджэнне ідэалогіі з моцнай утапічнай танальнасцю, каторая суправаджае з таго часу метады камунікацыі, можа быць аднесена да перыяду паміж 1942 і 1949 гг. Як можна ахарактарызаваць гэты канец 40-х гг. з таго пункту гледжання, які нас цікавіць? Якую ролю ў гэтай справе адыгрываюць гістарычны і культурны кантэкст?

XVIII і XIX стст. характарызаваліся, прынамсі, на Захадзе, бязмежнымі спадзяваннямі, якія былі звязаны адначасова з новай незалежнасцю чалавечай асобы, значэннем сацыяльнай сувязі на аснове павагі да "грамадскай справы", што цяпер стала прыярытэтнай, і нарэшце прагрэсам, які рабіўся магчымым дзякуючы ўзлёту навукі. Інтэнсіўнае развіццё метадаў камунікацыі, якім вызначаўся гэты перыяд, сведчыць пра сілу таго аптымізму і веры ў будучыню, што дамінавалі да пачатку XX ст. Новая "трыццацігадовая вайна" з 1915 па 1945 гг. утаймавала ўсе гэтыя прэтэнзіі.

Глабальныя вынікі трыццаці гадоў войнаў, што адбываліся адна за адной, аказаліся вельмі цяжкімі ва ўсіх адносінах. Навука, у адпаведнасці з ідылічным баченнем XIX ст. — "крыніца вечнага прагрэсу", — спарадзіла пачварныя ўзбраенні: ад першых атрутных газаў у 1915 г. да жахлівых ядзерных бамбардзіровак улетку 1945 г. Навуку падпарадкавалі, і шмат вучоных працавала альбо знаходзячыся на вайсковай службе, альбо ў лабараторыях, якія цалкам фінансаваліся арміяй. У ЗША на праект "Манхэтан", мэтай каторага было стварэнне атамнай бомбы, было мабілізавана да 100 000 вучоных, інжынераў і тэхнікаў, якія сабралі ў звышсакрэтным горадзе, пабудаваным спецыяльна для гэтай мэты, — Лос-Аламасе. У 1945 г. навука і армія ў краінах-саюзніцах, у прыватнасці, ЗША і Англіі, уяўлялі сабой два бакі аднаго медаля.

Адбылося змяненне характару самой вайны: да гэтага вядзенне баявых дзеянняў было справай прафесійных армій, а цывільныя асобы прымалі ў іх удзел толькі ў выключных выпадках, нават калі яны і цярпелі заўсёды ад наступстваў узброеных канфліктаў. Падчас новай "трыццацігадовай вайны", у якой загінула найменш 70 мільёнаў чалавек, традыцыйны бар'ер паміж цывільным насельніцтвам і вайскоўцамі паступова знік. Цывільнае насельніцтва аказалася так ці інакш непасрэдна ўцягнутым у яе. Спачатку, у 1915 г., спатрэбілася мабілізаваць цэлыя пакаленні, і цвет еўрапейскай моладзі панёс вялізныя страты. Наступныя за ёй лакальныя войны на Далёкім Усходзе і ў Іспаніі характарызаваліся беспрэцэдэнтнымі ўзрушэннямі і знішчэннем мірнага насельніцтва.

Распачатая ў 1939 г. вайна, што ўяўляла сабой механізм, які набраў абароты, пацвердзіла і ўзмацніла гэтую тэндэнцыю, надаўшы ёй індустрыяльны размах. Масавы ўдзел у баявых дзеяннях узброеных і часткова мілітарызаваных груп цывільнага насельніцтва (апалчэнцы, партызаны) моцна паспрыяў сціранню мяжы паміж цывільнымі і вайскоўцамі. Вяршыняй гэткага развіцця падзей сталі паветраныя бамбардзіроўкі з мэтай разбурэння цэлых гарадоў (адныя толькі бамбардзіроўкі, што праводзіліся саюзнікамі, пачынаючы з 1942 г., забралі сотні тысяч жыццяў). Да 1942 г. саюзнікі кваліфікавалі гэтыя сістэматычныя бамбардзіроўкі, пачатак якім паклалі нацысты ў Герніцы, як тыповыя акты "фашысцкага варварства". А потым тыя самыя людзі, што асуджалі бамбардзіроўкі як амаральныя, праграмавалі іх на навуковай аснове, толькі ўдары наносіліся па мірным насельніцтве Германіі і Японіі. Яшчэ не ўсё сказана пра падпарадкаванне найноўшых дасягненняў навукі мэтам вядзення сучаснай вайны і тую дзіўную перамену курсу саюзнікаў узімку 1941—1942 гг., у выніку чаго яны распачалі бамбардзіроўкі, каторыя асуджалі як тыповае праяўленне фашысцкага варварства, а потым ажыццявілі ядзерныя бамбардзіроўкі ўлетку 1945 г., якія ўжо ніяк нельга аднесці да "звычайнай вайны"; прынялі "стратэгію знішчэння гарадоў", што і сёння — адзіны запраграмаваны спосаб вядзення вайны з выкарыстаннем зброі масавага знішчэння.

ЗНО

Відарыс



У дваццаць восьмым выпуску «ЗНО» графічны малюнак Алега Нікуліна ( вёска Гурнаўшчына).

# ВЫБУХ КАМУНІКАЦЫІ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 11–12)*

чаргу залежыць трываласць або падзенне нашай цывілізацыі". Аднак існуюць і сілы, якія процідзейнічаюць распаўсюджванню інфармацыі. Велізарнае знішчэнне каштоўнасці інфармацыі адбываецца галоўным чынам з-за спробы ўтойваць яе, зыходзячы з меркантыльных інтарэсаў. Вінэр ужываў самыя рэзкія словы, крытыкуючы, напрыклад, падпарадкаванне прэсы і радыё выключна камерцыйным інтарэсам, або палітыку патэнтавання, якая па руках і нагах стрымлівала працэс вынаходніцтва. Шляхі камунікацыі блакуюцца і разбураюцца, калі іх выкарыстанне падпарадкоўваецца толькі закону атрымання прыбытку. Ператварэнне інфармацыі ў тавар, які можна захоўваць, непазбежна азначае дэградацыю і аслабленне **бесперапыннага патоку**, які павінен паіць грамадства і без каторага яно не можа існаваць.

У рамках трэцяй альтэрнатывы процістаўляюцца сакрэтнасць і "празрыстасць" інфармацыі. Ужыванне метафары "празрыстасць" не было новым. Як гаворыць у сваім аналізе гісторыі утопій Жыль Ляпуж (Lapouge), "ідэальны горад заўжды празрысты". Аднак Вінэр гіпербалізуе гэты момант, падкрэсліваючы, што грамадства "можна зразумець толькі вывучаючы ўласцівыя для яго паведамленні". З гэтага часу даступнасць інфармацыі з'яўляецца жыццёва важным фактарам, якому процістаіць палітыка сакрэтнасці ва ўсіх яе формах, палітыка, што адлюстроўвае "жаданне хворай цывілізацыі, каторая не хацела б ведаць, што яе хвароба прагрэсуе". Заўважым пры гэтым, што ўскосным наступствам надання інфармацыі такой ролі стала ператварэнне навук, якія вывучаюць камунікацыю, у сапраўды сацыяльныя навукі.

У той час, калі Вінэр апісваў, якім павінна быць ідэальнае грамадства камунікацыі, г. зн. адзінае, якое можа выжыць, моцна адчуваўся ўплыў арміі ў розных інстытутах амерыканскага грамадства, асабліва ва універсітэцкай навуцы. Імператывы "нацыянальнай бяспекі" цалкам трансфармавалі ідылічную схему зносін паміж вучонымі, якая грунтавалася на свабодным абмене інфармацыяй пра працы і іх вынікі. Гучныя справы, звязаныя са шпіянажам, характэрныя для першых гадоў халоднай вайны, таксама паспрыялі таму, што ўсякая адкрытасць і празрыстасць, датычныя самай нязначнай інфармацыі, каторая магла мець нейкае, нават аддаленае дачыненне да прамысловай або вайсковай сферы, успрымаліся з падазрэннем.

Вінэра хвалявалі не толькі вайсковыя сакрэты. Калі ён выступаў за "празрыстасць", то меў на ўвазе і такі фундаментальны момант, якім з'яўляецца для яго добрае веданне ўсімі правілаў, па якіх арганізавана сацыяльная камунікацыя. Аналіз грамадства камунікацыі ўключаў пытанні права, якое вызначалася як "этычны аспект камунікацыі". Як бачым, праблемы права і закону вынікалі з прыроды камунікацыі і знаходзіліся ў кампетэнцыі такой дысцыпліны, як кібернетыка, у тым сэнсе, што гаворка ідзе пра праблемы, якія залежалі ад рэгулярнага і шматразовага кантролю ўсіх крытычных сітуацый.

Такім чынам, Вінэр распачаў вайну супраць, як ён казаў, "цёмнай, негатыўна фатаграфічнай фауны судоў". Першы абавязак заканадаўцы і суддзі, на яго думку, — дамаганне яснасці і недвухсэнсоўнасці сваіх сцвярджэнняў, каб не толькі спецыяліст, але і чалавек з вуліцы мог інтэрпрэтаваць іх адназначна і, галоўнае, прадбачыць, як можа пакіравацца суд. Вінэр любіў прыводзіць у якасці прыкладу лёс індзейцаў, якія з-за няведання правілаў гандлю і з-за таго, што ім было невядома паняцце ўласнасці на зямлю, саступілі белым права паляваць на пэўных землях, якія затым у поўнай адпаведнасці з законам былі анексаваны, паколькі гэтае права было інтэрпрэтавана як права ўласнасці на зямлю. З пункту гледжання адкрытай і празрыстай камунікацыі абавязковай умовай усякага справядлівага кантракта ёсць інфармаванне партнёраў аб правілах, па якіх ён заключаецца.

## УПЛЫЎ ВІНЭРА

Якім быў рэальны ўплыў Вінэра і яго аргументацыі ў падтрымку грамадства камунікацыі? Каб адказаць на гэтае пытанне, трэба спачатку звярнуць увагу на той факт, што Вінэр быў наватарам толькі часткова. Ягонае мысленне адлюстроўвала сітуацыю, што ў вялікай ступені ўжо склалася ў заходнім грамадстве, асабліва ў англасаксонскім свеце, дзе значэнне інфармацыі ў розных яе формах стала ўсім зразумелым. У той час, калі ўсе адчувалі, што ў гэтым ёсць нешта важнае, Вінэр зрабіў яе воссю, вакол каторай у далейшым павінна было круціцца ўсё. Значэнне, якое ён надаваў шляхам камунікацыі і машынам для апрацоўкі інфармацыі, выдатна адпавядала, нават калі яго разважанні апераджалі жыццё на некалькі год, матэрыяльнаму прагрэсу тэхнікі ў гэтых галінах, у прыватнасці тэлефоннай сувязі і інфарматыцы.

Вострае ўсведамленне ім пагрозы, што навісла над грамадствам, над сацыяльнай лучнасцю і над самім існаваннем чалавечай супольнасці, цалкам адпавядала стану грамадства, якое магло існаваць надалей толькі забыўшыся пра няшчасці зусім нядаўняга мінулага і не думаючы пра няшчасці, якія былі вельмі верагоднымі ў бліжэйшай будучыні. Ягоная заслуга палягае ў тым, што ён прапанаваў паняцці, што мелі навуковае паходжанне (у прыватнасці, энтрапію і інфармацыю) для аналізу і вытлумачэння сацыяльнай і маральнай сітуацыі, даць інтэрпрэтацыю якім не наважвалася ўжо ніводная з традыцыйных сістэм і якія пастаянна імкнуліся сцерці з памяці. Пераканаласць аргументаў, якія ён высунуў на карысць грамадства камунікацыі, несумненна, у большай меры звязана з адсутнасцю тлумачэнняў і маўчаннем адносна тых вялікіх зменаў, што адбываліся ў той час, чым іх унутранай сілай.

Найбольш палітызаваная частка разважанняў Вінэра, што рабіла з яго нешта накшталт досыць арыгінальнага "рацыянальнага анархіста", які змагаўся з капіталізмам, камунізмам, царквой і арміяй, не аказаўшы непасрэднага ўплыву на грамадства ў цэлым або на тых, хто адчуваў сябе мабілізаваным на франты халоднай вайны, моцна паўздзейнічала на тых, хто ўяўляў сабе іншую будучыню для ЗША і ўсяго заходняга свету. Спатрэбілася дачакацца сярэдзіны і канца 60-х гг., калі шырока распаўсюджаныя ідэі Вінэра пачалі сілкаваць радыкальную грамадскую плынь, каторая выступала супраць умяшання Амерыкі ў справы В'етнама і Камбоджы і спрабавала ў знак пратэсту вылучыць новыя каштоўнасці. З таго часу яны шырока пашырыліся ва ўсім грамадстве.

БІБЛІЯГРАФІЯ: G.Bateson, 1971; Ph. Breton, 1992; J.Cohen, 1968; D.Dubarle, 1948; J.S.Heims, 1982; G.Lapouge, 1978; G.H.Mead, 1948; P.Pringle, J.Spigelman, 1982; B.Randell (éd), 1982; R.-J.Ravault, 1993; T.Roszak, 1986; L.Sfez, 1988; G.Steiner, 1973; A.Turing, 1983; N.Wiener et alii 1961; N.Wiener, 1948, 1952; D.Wyman, 1987.

**Пераклад з французскай Алега МАРОЗА**

* Breton P., Proulx S. L'Explosion de la communication. La naissance d'une nouvelle idéalogie, — La Découvente — Boreal: Paris-Montréal, 1993.

Кніга "Выбух камунікацыі. Нараджэнне новай ідэалогіі" (Парыж-Манрэаль, 1993) у перакладзе на беларускую мову падрыхтавана да друку Незалежнай выдавецкай кампаніяй "Тэхналогія" — у працяг серыі Беларускага Фонду Сораса "Адкрытае грамадства".





*Тэксты друкуюцца паводле аўтарскага правапісу.*